

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 19 (25). Кастрычнік 1992 г. Цана 1 рубель


**ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ:**

Канец яшчэ аднаго міфа

✦

«Прыхватызацыя» працягваецца

✦

Вакол культурна-рэлігійнага жыцця

✦

Новая рубрыка «Во дзівосы!»



## Любі Радзіму

Сабе куміраў не стварай,
Любі Радзіму,
Любі душой свой родны край,
Навек адзіны.

І сэрца рытм пакуль не сціх,
І кроў пульсуе,
Любі Радзіму, а не тых,
Хто ёй кіруе.

І як бы цяжка ні было,
Устань з каленяў,
Тады пабачыш ты святло
Святых памкненняў.

Дзе б ты ні быў, не забывай,
Што там, за даллю,
Твая зямля, твой родны край
Цябе чакае.

**Іван ЛАЗУКА,**
г. Сянно

*Над Дзвіной*

# ЗВАРОТ

**ДА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Я. М. БАЧАРОВА, М. І. ГРЫБА, В. В. ЗАХАРАНКІ, В. В. ЛЮБАВІЦКАГА, А. І. ОБРАЗАВА С. І. НАВУМЧЫКА, М. А. СЛЯМНЁВА, М. І. СЦЯПАНЕНКІ І М. А. ФЕДАРЧУКА, ЯКІЯ ВЫБРАНЫ Ў ГОРАДЗЕ ВІЦЕБСКУ.**

## Паважаныя народныя дэпутаты!

Па свайму дэпутацкаму статусу вы закліканыя адстойваць законныя інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. Аднак у цяперашні час нашыя правы аказаліся ўшчэмленымі.

У адпаведнасці з законам увесну гэтага года ініцыятыўная група рэферэндуму сабрала болей 440 тысяч подпісаў у падтрымку правядзення рэферэндуму па пытанню: «Ці лічыце Вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе «Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым, датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?»

Цэнтральная камісія па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь пацвердзіла сапраўднасць сабраных подпісаў. Тым не менш Вярхоўны Савет ухіліўся ад выканання сваіх абавязкаў і не прызначыў дату правядзення галасавання, у выніку чаго парушыў прыняты ім жа закон і правы чалавека.

Нам ведама, што ў вашых перадвыбарных праграмах, паважаныя дэпутаты, ёсць пункты аб забеспячэнні праваў чалавека і выкананні заканадаўства, якое дзейнічае, пагэтаму мы звяртаемся да вас з патрабаваннем на маючай адбыцца сесіі Вярхоўнага Савета выканаць абяцанні і ўзняць голас у абарону закона аб рэферэндуме, які парушаецца.

Мы мяркуем, што будаўніцтва прававой дзяржавы не варта пачынаць з парушэння прававых нормаў з боку заканадаўчае ўлады.

Тыя народныя выбраннікі, каторыя лічаць іначай, не выконваюць перадвыбарныя абяцанні і губляюць, на наш погляд, маральнае права выражаць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў у вышэйшым органе ўлады.

Мы звяртаемся з просьбай да ўсіх выбаршчыкаў рэспублікі патрабаваць ад сваіх дэпутатаў выканання закона аб рэферэндуме.

**Прыняты аднагалосна на агульным сходзе Віцебскага гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары».**

*Весткі з раёнаў*

### Цывілізуемся

На Лепельскім раённым вузле сувязі ўстаноўлены тэлефакс. Сувязісты мяркуюць у будучым аказваць паслугі гаспадаркам ды прадпрыемствам, якім трэба тэрмінова перадаць разнастайную інфармацыю.

### Бліжэй да гісторыі

На тэрыторыі сярэдняй школы ў вёсцы Пышна (Лепельшчына) былы панскі склеп перабудаваны ў гістарычны музей. Экспанаты сабралі юныя краязнаўцы.

### Успамін пра жахі

За перыяд з красавіка да канца лета сенненскія пажарнікі выклікаліся на тушэнне лясных пажараў, загаранняў травы і тарфянікаў болей 350 разоў.

### Захаваем

У Бешанковіцкім раёне створаны дзяржаўны заказнік-журавіннік «Соржыцкі мох». Ягоная плошча—804 гектары.

### Чытачы раяць

Як зрабіць нашае выданне больш змястоўным, аўтарытэтным ва ўсёй Рэспубліцы, як паскорыць распаўсюджанне «Выбара»—такія надзённыя пытанні вырашаліся на пасяджэннях Віцебскага клуба «За дэмакратычныя выбары» 17 і 24 верасня.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

# ЗА І СУПРАЦЬ

На днях па ініцыятыве Віцебскага гарвыканкама адбылося абмеркаванне праекта Канстытуцыі нашай дзяржавы. Большасць удзельнікаў выказалася за непрыняцце прапанаванага праекта Асноўнага закона. Некаторыя прысутныя гаварылі пра неабходнасць пакінуць старую, бээсэсэраўскую Канстытуцыю ў якасці дзеючай.

БНФ і Віцебскі клуб «За дэмакратычныя выбары» ў гэтай сустрэчы не ўдзельнічалі.

**Наш карэспандэнт.**

# *Маленькае свята*

*Вось і на нашай вуліцы свята. Каляндар пачаў адлічваць другі год існавання газеты. Гэта замала, каб зрабіць выданне звышпапулярным і разам з тым дастатковы тэрмін, каб ужо заявіць пра сябе.*

*За гэты час мы паспелі набыць свайго пастаяннага чытача. І хай не ўсё з таго, што задумвалася, ажыццявілася, не ўсе мары здзейсніліся, аднак аднагадовае «дзіця» жыве й два разы штомесяц прыходзіць да сваіх чытачоў—гэта ўжо перамога.*

*Што ж падтрымлівала нас усе гэтыя часы? Ідэя нацыянальнага адраджэння роднай Беларусі, развіццё беларускай мовы, культуры, вяртанне забытае гісторыі—вось крыніца сілаў ды творчага натхнення. А добрыя пажаданні Васіля Быкава ды Рыгора Барадуліна, зычанні поспехаў нашымі чытачамі-суайчыннікамі з замежжа сведчаць пра тое, што мы на верным шляху і нашае слова патрэбнае.*

*Цяжкасцей на нашую долю прыйшлася торба ды самая паўнюткая. Няма патрэбы і часу іх пералічваць. Усе яны—у мінулым. А што далей? Наперадзе старыя-новыя праблемы. Пошук фінансавых сродкаў і падрыхтоўка наступнага нумара газеты...*

*Дык няхай дасць Бог нам крыху ўдачы. Згода? Жыве Беларусь!*

**КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.**

### Шаноўныя спадары!

**У наступным нумары «Выбар» мяркуе надрукаваць матэрыял Зянона Пазьняка «Стварэньне нацыянальнага войска і дзяржаўная незалежнасьць».**




## ПЕРАД ПАЧАТКАМ

сесіі Віцебскага абласнога савета прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў правялі пікет, адной з мэтаў якога было патрабаванне ацэнкі дзеянняў першага намесніка старшыні аблсавета Ц. Місуны, каторы прымаў удзел у накіраванні трактара ў саўгас «Азярцы» Глыбоцкага раёна для продажу гэтай машыны свайму сыну.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

**Ад рэдакцыі:** развагі пра сесію нашага карэспандэнта чытайце ў наступным нумары.

*Канец яшчэ аднаго міфа*

# Прэс-рэліз апазіцыі БНФ

**(СКАРОЧАНА)**

Адзін са стэрэатыпаў, якія дзесяцігоддзямі ўціскаўся афіцыйнай камуністычнай прапагандай у масавую сьвядомасьць—што Беларусь не мае ўласных карысных выкапняў ды энергарэсурсаў, і таму цалкам залежная ад Расіі. Гэты тэзіс, як вядома, з асаблівым імпэтам распрацоўваецца і цяпер, калі рэспубліка абвясьціла незалежнасьць.

Беларусь знаходзіцца на тэрыторыі старажытнай усходнееўрапейскай платформы і мае багатую—больш за 3 млрд. гадоў—геалагічную гісторыю. Кожная эпоха пакінула свой след, большасьць якіх да зусім нядаўняга часу былі схаваныя ад чалавечага вока і невядомыя нават дасьледчыкам.

Сярод карысных выкапняў, якія мае Беларусь, трэба, найперш, адзначыць калійныя солі. Прагнозныя запасы—80 мільярдаў тон. З 1965 года Беларусь дала 640 мільёнаў тон сільвініту, і тона каштуе каля 100 долараў. Увогуле ж аб'ём угнаеньняў, якія вырабляюцца Салігорскім камбінатам, складае больш за 50% угнаеньняў гэтага тыпу, якія вырабляюцца ў межах былога СССР (Салікамск—каля 48%). Аднак тэхналогія камбінату недасканалая: вялізная колькасьць шламаў (тэрыконаў) стварыла сур'ёзную экалагічную праблему. Да таго ж, не распрацоўваецца карналіт—яго проста зьнішчаюць.

У г. зв. Прыпяцкім прагібе знаходзяцца гіганцкія запасы паваранай солі—іх распрацоўка да гэтага часу па-сур'ёзнаму і не пачыналася (выключэньне складае Мазырскае радовішча). І гэта пры тым, што да нядаўняга часу на прывоз солі з Украіны рэспубліка траціла 2—3 мільёны рублёў у год.

У раёне Карэліч выяўлена радовішча магнецытавай руды (на глыбіні ўсяго 150 метраў), каля Сталбцоў знойдзены кварцыты. Ужо цяпер іх выяўлена 700 мільёнаў тон, прагнозны ж запас складае 1,5 мільярда тон. Гэтая руда ўтрымлівае 34—35% жалеза, што лічыцца дастаткова высокім паказчыкам.

На поўдні рэспублікі (Мікашэвічы) ідуць распрацоўкі граніту, драбільны камбінат выпускае 8 мільёнаў тон у год і з'яўляецца буйнейшым у Еўропе.

У Рубе, пад Віцебскам, працуе яшчэ адзін гігант еўрапейскага маштабу—камбінат даламітавай мукі (7 мільёнаў тон у год), агульныя запасы даламіту складаюць тут каля 500 мільёнаў тон.

### Аб карысных выкапнях на Беларусі і перспектывах іх распрацоўкі

Запас фасфарытаў, знойдзеных на Магілёўшчыне, складае 900 мільёнаў тон. Арганізацыя экалагічна чыстай вытворчасьці дазволіць адмовіцца ад сыравіны, якую возяць з Апацітаў.

Запас цыялітаў, крэмневых утварэньняў складае 3 мільярды кубічных метраў.

Запас даўсаніту (мінералу, які на тэрыторыі былога СССР нідзе больш не сустракаецца, з яго можна вырабляць алюміній, соду і інш.) складае каля 100 мільёнаў тон.

Што тычыцца паліўных рэсурсаў, то і тут у рэспубліцы вялікія перспектывы. Некалі на Беларусі здабывалася да 8 мільёнаў тон нафты ў год. Аднак, гэты «камуністычны рэкорд» быў дасягнуты варварскім спосабам. Цяпер дабываецца 2 мільёны тон, але гэта—трывалы ўзровень, які можа стабільна трымацца шмат гадоў і як мінімум забяспечваць чвэрць патрэб рэспублікі ў нафце.

Трэба зазначыць, што беларуская нафта вельмі лёгкая і надзвычай каштоўная, аднак прамысловасьць рэспублікі ніколі яе не мела: ўся нафта сплаўлялася па нафтаправодзе «Дружба» ў сацкраіны Еўропы; да нас жа паступала не зусім якасная нафта з Сібіры. Усяго ж з Беларусі было выкачана 80 млн. тон нафты (1 тона—200 долараў ЗША).

Запас бурага вугалю (а менавіта на ім трымаецца Германія), па прагнозах, складаецца з 2—3 мільярдаў тон.

Гаруча-сланцавы басейн вельмі старажытны, прагноз—11 мільярдаў тон.

Акрамя таго, на Беларусі вялікія запасы пітной вады, прычым высокай якасьці. Але, на жаль, яна ідзе на вытворчыя патрэбы (мінчане спажываюць вілейскую ваду). На Прыпяччыне і пад Оршай знойдзены г. зв. расолы, якія захаваліся ад старажытнага мора. Гэта—своеасаблівая вадкая руда, якая ўтрымлівае бром, ёд, ліцій. На думку акадэміка Гарэцкага, гэтая вада («беларусіт») з часам будзе больш каштоўная, чым нафта. Запасы беларусіта незлічоныя.

І, нарэшце, ледзь не ў кожным возеры Беларусі знаходзяцца сапрапелі (прагноз—3 мільярды кубічных метраў), якія вельмі каштоўныя для фармакалогіі і могуць з посьпехам выкарыстоўвацца як угнаеньні замест нітратаў, якімі перанасычана глеба рэспублікі.

Натуральна, што такая вялізная колькасьць карысных выкапняў вымагае і належнай арганізацыі іх здабычы. Гэтая вытворчасьць павінна, па-першае, быць экалагічна чыстай, па-другое, грунтавацца на дасканалых эканомных тэхналогіях (па зьвестках Ул. Заблоцкага, італьянская фірма прапаноўвае пераапрацоўваць тыя ж салігорскія тэрыконы). Трэба больш уважліва ставіцца і да ўтварэньня розных канцэсій з удзелам замежных партнёраў, паколькі існуе вялікая рызыка продажу каштоўных выкапняў па заніжаных цэнах.

Апазіцыя БНФ лічыць, што здабычу і перапрацоўку карысных выкапняў павінна каардынаваць адпаведнае міністэрства альбо камітэт, і распачынаць гэтую працу трэба неадкладна.

# СПРАВА ЗРОБЛЕНА

Падзея, аб неабходнасьці і непазьбежнасьці якой увесь час ад пачатку свайго ўтварэньня казалі віцебскія нацдэмы, адбылася, здзейснілася—НДПБ прыняла права-радыкальную нацыяналістычную платформу і скасавала штучны «дэмакратычны» інстытут сустаршынства. III канферэнцыя партыі, 3.10.92 г. у Менску, прыняла адпаведную Праграмную заяву, прызнала дзейнасьць свайго кіраўніцтва **нездавальняючай**, абрала адзінага часовага в. а. старшыні НДПБ, даручыла часова выконваць свае абавязкі і існуючай Вышняй Радзе НДПБ для падрыхтоўкі Кангрэсу партыі, на якім будуць прыняты Праграма і новы Статут НДПБ, абраны новыя сталыя органы кіраўніцтва. Найбольш актыўны ўдзел у канферэнцыі ўзяла прадстаўнічая дэлегацыя (другая пасьля Менску і ваколіц) Віцебскай вобласьці ў складзе Пятруся Баравіка (Новалукомль), Алеся Фраленкі, Валеры Смунёва, Сяржука Цярэнцьева, Алеся Мудрычэнкі (Віцебск). На жаль, па асабістых абставінах не змаглі прыбыць на канферэнцыю прадстаўнікі Наваполацку, Лепелю і інш.

**Віцебская Рэгіянальная Рада НДПБ.**

# А Ў ВІЦЕБСКУ—КЕПСКА!

Згадваючы пра фэст аўтарскай песьні, ладжаны аршанцамі на Крапівенскім полі, вельмі хочацца параўнаць яго са сьвяткаваньнем дня вайсковай славы 8 верасьня ў Віцебску. Параўнаньне яўна не на карысьць віцяблянаў. У Воршы адносна невялікая купка энтузіястаў здолела правесьці «чудесный сейшен», як выказаўся адзін з расейскіх гасьцёў.

Сапраўды, калі ў мінулым годзе было на фэсьце чалавек сорак, то сёлета—пад чатыраста. У цэлым фэст удаўся. Гуказабяспячэньне было дастатковым, сцэна—падрыхтаванай. Бардаў прыехала каля паўтара дзесятка. Былі «Выбранецкія шыхты», зь якімі моладзь апоўначы таньчыла пад дуду і жалейку. Былі хлопцы з клуба славянагорацкай барацьбы «Хорс», якія, дарэчы, прадэманстравалі сваё майстэрства на добрым відовішчным узроўні. Намётавы гарадок шапацеў нацыянальнымі сьцягамі. Час ад часу слова браў аршанскі краязнавец Юрась Копцік і дэталёва вёў аповяд пра тую слаўную перамогу Канстанціна Астрожскага. У паходнай краме можна было набыць бутэрброд, каву і нават аксамітнае піва.

А цяпер перанясемся ў Віцебск. З-за адсутнасьці нацыянальна сьвядомых прафесійных вайскоўцаў (гэта ж трэба—на 360 тысяч жыхароў Віцебска—ніводнага сьвядомага беларуса-вайскоўца) ініцыятыву правядзеньня прысягі ўзваліла на свае плечы Віцебская Рада БНФ. Рок-канцэртам займаўся адзьдзел культуры гарвыканкама ў шчыльным кантакце зь мясцовым фондам культуры. На жаль, гэтая другая частка мяркуемай імпрэзы аказалася цалкам праваленай. Зь беларускамоўных гуртоў хто захварэў, хто запатрабаваў занадта высокую плату за выступ, а хто быў ужо не ў стане сабрацца пасьля чарговых гастроляў. З гарадскіх рок-аб'яднаньняў да канцэрту больш ніхто цікавасьці не праявіў. Падобна на тое, што нашыя рок-музыкі гатовыя адзначаць усё—гадавіну сьмерці пецярбуржца, гадавіну гібелі Віктара Цоя, але толькі ня тое, што лучыць іх зь зямлёй беларускай.

За дваццаць хвілін да прыняцьця сімвалічнай прысягі на плошчу Волі прыехалі музыкі—рэстаранная каманда з «Аўроры». Сцэны на плошчы не было, таму яны гралі на газоне ля фантана. Зразумела, «гналі папсу».

Адгукнуліся на гэтае сьвята і прыхільнікі камунізму, але не намерам прысягнуць на вернасьць Беларусі. Яны, як, заўсёды, тусаваліся. Зноў прыйшоў на плошчу начальнік Кастрычніцкага РАУС—палкоўнік Ільніцкі (няўжо на кожнай такой сходцы абавязкова прысутнасьць такога высокага начальства? Няўжо ўсіх злачынцаў злавілі? Праводзіў гэты работнік міліцыі «прафілактычную гутарку» з хлопцамі з «Хорса» ці не, я не ведаю. Але чамусьці хлопцы тыя застрашыліся і адмовіліся выступаць.

Такім чынам, можна зрабіць наступныя высновы. Гарадзкія ўлады (за выключэньнем адзьдзела культуры, які праўда, не здолеў нават сцэну на плошчы замовіць) не адгукнуліся на патрыятычную прапанову адсьвяткаваць Дзень вайсковай славы Беларусі: інтарэсы беларускай дзяржавы, патрыятычнае выхаваньне—нічога гэтае іх не кранае.

**М. ПАЎЛАЎ.**

# Новы маладзёжны рух

Ужо другі год як на Беларусі існуе вызначаны скаўцкі рух. Адрадзіўся ён амаль на голым месцы высілкамі груп і асобаў практычна без падтрымкі ўлад. Іншым разам і насуперак іх пазіцыі. Супрацьдзеянне ўзнікала галоўным чынам з боку апарата сістэмы адукацыі (хаця рух гэты пазашкольны) і былых т. зв. грамадска-палітычных структураў (хаця рух скаўтаў непалітычны). Найбольш небяспечным для гэтых колаў было адраджэнскае адценне ў руху. Таму рабіліся спробы звесці скаўцтва, па грунту і прызначэнню патрыятычнае, на сцежкі стандартнай камінтэрнацыянальнай безаблічнасці, на пустую забаву. Рабіўся аперэткавы камуфляж «пад скаўцтва». Узнікалі камедыйныя сітуацыі. Новааб'яўленым скаўтам незалежнай Беларусі іх кіраўнікі выбіралі колеры дома Раманавых, расейскую манархічную сімволіку і да т. п. Гэты ход задавальняў асімілятарскія намеры стваральнікаў, але адначасна нішчыў першы з трох асноўных прынцыпаў скаўцкага руху: «Бог і Бацькаўшчына». Хто адмовіцца ад Бацькаўшчыны, таго пакіне і Бог. Адраджэнскі накірунак скаўцтва—натуральная плынь грамадскага руху Беларусі за вяртанне страчанага і зрабаванага: гісторыі, культуры, традыцый, нацыянальнай школы і выхавання. Скаўцкая сістэма вельмі гнуткая і выдатна прыстасоўваецца да патрэб любога грамадства ў адпаведнасці з яго сённяшнім станам.

Беларуская сістэма адукацыі практычна ніколі не была па-сапраўднаму нацыянальнай. Яна не карысталася

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ЗДЗЕК НАД ПРАЦОЎНЫМ ЛЮДАМ

Працягваецца шалёная, дзікая «прыхватызацыя» народнай маёмасці. Пры гэтым правячая наменклатура рознага рангу, выкарыстоўваючы недасканалыя законы, а то і непрыкрыта парушаючы іх, імкнецца адхапіць як мага больш. А калі працоўныя дзе-ндзе спрабуюць абскардзіць незаконныя дзеянні гэтай наменклатуры—тады пачынаецца бязлітасны здзек над працоўным людам. Рэдакцыя атрымала калектыўнае пісьмо рабочых аднаго з прадпрыемстваў г. Новалукомля. Яны падрабязна апісваюць, як кіраўніцтва іх завода (а завод амаль тры гады працуе на арэндзе), карыстаючыся цяперашняй неразбярыхай і бязладдзем «ловіць рыбку ў каламутнай вадзе». Пры гэтым працоўныя, па сутнасці, застаюцца без сродкаў да існавання. Гаворка йдзе пра выкуп кватэр у прыватную маёмасць. У лісце называюцца такія лічбы: 3-пакаёвая кватэра—572 тыс. руб., 2-пакаёвая—420 тыс. руб. Адкуль у простага працаўніка такія «шалёныя» грошы? У завода таксама няма сродкаў на фінансаванне жыллёвага будаўніцтва. Але адміністрацыя знаходзіць выйсце—канечне ж, за кошт радавых работнікаў. Тут трэба паясніць—гаворка ідзе пра выкуп яшчэ не пабудаваных кватэр, будуецца 108-кватэрны дом. Паколькі сродкаў у завода няма, ствараецца па ініцыятыве адміністрацыі жыллёва-будаўнічы кааператыў з ліку рабочых, якія стаяць на чарзе па жыллё. Гэты кааператыў атрымлівае крэдыт у банку, але ж пры якіх умовах? Вось што пішуць рабочыя ў калектыўным пісьме (другі экземпляр гэтага пісьма рабочыя накіравалі і райпракуратуру): «Чтобы получить кредит в банке, нам нужно выплатить 10% стоимости квартиры. Это 57 тысяч руб.—трехкомнатная и 42 тыс. руб.—двухкомнатная. При заработке 2,3—3 тыс. руб. это практически невозможно. Администрация находит выход. Завод вносит 10% за нас, но теперь мы будем вносить в кассу завода до конца строительства дома, чтобы погасить ссуду, ежемесячно за трехкомнатную—2625 руб., за двухкомнатную—2180 руб. В случае несогласия дом «замораживается». При зарплате 2,5—3 тыс. руб. в месяц практически на содержание себя и семьи не остается. А ведь семьи по 3—4 человека у каждого очередника. Фактически совет арендного коллектива и директор лишили нас средств к существованию». Далей рабочыя паведамляюць пра шматлікія факты злоўжывання і раскрадання дзяржмаёмасці некаторымі кіраўнікамі завода. У той час як рабочыя—аўтары пісьма—туляцца з сем'ямі на прыватных кватэрах і ў інтэрнатах, кіраўніцтва завода жыве ў камфартабельных дзяржаўных кватэрах, будуе сабе рукамі тых жа рабочых шыкоўныя дачы, дарогі да гэтых дач, гаражы—усё гэта, як пішуць рабочыя, «за символическую оплату». І яшчэ адна цытата з гэтага ліста: «В то же время, создав систему кооперативов и МП, многие руководящие работники умудрялись получать оклады в двух местах. И только когда завод вынужден был пойти на крайнюю меру (рабочие объявили забастовку), началась резкая ликвидация кооперативов и малых предприятий».

У хуткім часе пасля гэтага калектыўнага пісьма рэдакцыя атрымала яшчэ адно пасланне з Новалукомля ад аднаго з актывістаў рабочага руху горада. Да нядаўняга часу ён працаваў на тым жа заводзе, аб якім ідзе гаворка. Але адміністрацыя прадпрыемства, выбраўшы зручны момант, звольніла яго ў адпаведнасці з артыкулам працоўнага заканадаўства. Усё як быццам па закону. Расправіўшыся з кіраўніком рабочага руху на заводзе Пятром Баравіком, адміністрацыя тым самым запалохвае іншых рабочых-актывістаў, тых, хто не пабаяўся сказаць праўду ў вочы начальству. Як паведамляе ў сваім пісьме П. Баравік, на калектыўны зварот рабочых пракурор Чашніцкага раёна адказаў, што гэта амбіцыі рабочых і ніякіх фактаў парушэння закону з боку адміністрацыі не выяўлена. Зноў усё ў адпаведнасці з законам.

У час камандзіроўкі карэспандэнта «Выбара» ў Новалукомль факты, прыведзеныя ў абодвух лістах, пацвердзілі ў аддзеле кадраў завода і ў Новалукомльскім гарвыканкаме. На жаль, не ўдалося сустрэцца з асобнымі актывістамі рабочага руху на заводзе, каб атрымаць інфармацыю з першых рук. Тэрмін камандзіроўкі быў вельмі абмежаваны. Але тое, што асноўныя палажэнні абодвух пісьмаў рабочых не аспрэчвалі ні ў гарвыканкаме, ні ў аддзеле кадраў завода, сведчыць пра многае. Па-першае, гэты выпадак у Новалукомлі паказвае нялюдскае аблічча нашай псеўдарынкавай эканомікі: у той час, калі нязначная частка насельніцтва (у асноўным посткамуністычная дзяржнаменклатура) багацее законнымі і незаконнымі шляхамі, асноўная ж частка народу, радавыя працаўнікі, штодня бяднеюць і многія знаходзяцца ўжо на мяжы галечы і жабрацтва. У сувязі з гэтым з'яўляецца характэрнай фраза, якую прамовіў у гутарцы са мной адзін чыноўнік: «Усе ж не могуць стаць капіталістамі!». Па-другое, асноўная частка нашага народу, простыя працаўнікі ніякімі законамі ад «беспредела» дзяржнаменклатуры не абаронены. Вось чаму рабочыя не знаходзяць абароны ў пракуратуры, вось чаму страціў работу адзін з іх актывістаў. І па-трэцяе, і гэта галоўнае, працоўны люд пачынае разумець, дзе знаходзяцца галоўныя вінаўнікі іх бядотнага становішча. Ён усё больш разумее, што толькі рэферэндум аб адстаўцы наменклатурнага Вярхоўнага Савета і антынароднага ўрада можа змяніць становішча да лепшага. У іншым выпадку мы атрымаем тое, аб чым папярэджваюць кіраўнікі БНФ і многія эканамісты, тое, што праяўляецца ўжо сёння: атрымаем эканоміку лацінаамерыканскага тыпу, дзе на адным полюсе будуць уладарыць 2—3% мільярдэраў, а на другім—будзе гібець у галечы большасць нашага насельніцтва. Цяперашні ўрад свядома набліжае такую перспектыву. Бо як інакш можна расцаніць той працэс дзікай «прыхтватызацыі», які шпаркімі тэмпамі ідзе па ўсёй Беларусі?

Як паведамілі мне ў аддзеле кадраў завода, у хуткім часе гэта прадпрыемства будзе прыватызавана шляхам акцыяніравання. Няўжо зноў усе выгады ад гэтага атрымае адміністрацыя, а рабочыя застануцца ні з чым?

**Анатоль БУКАЧОЎ.**

*Лёсы людскія*

# Гронка рабіны



...Золатам восень фарбавала лісце на дрэвах. А па халодна-блакітнаму небу з поўначы беглі цяжкія хмары-прадвеснікі зацяжных дажджоў. «Вось і праляцела лета, —з уздыхам падумаў Аляксандр Сяргеевіч.—Так і жыццё... Не паспеў азірнуцца, як прыйшла старасць. Гэта восень жыцця». З-за хмар пачуўся жалобны крык жураўлёў. Ад яго сціснулася сэрца Аляксандра Сяргеевіча. «Адлятаюць... У чужыя далёкія мясціны. Не ўсім давядзецца вярнуцца назад...»

...Я гляджу на каржакаватую і высокую постаць Аляксандра Сяргеевіча Ягорава, на заскарузлыя рукі чалавека, які шмат папрацаваў у сваім жыцці і якому давялося шмат чаго паспытаць у ім. Аляксандр Сяргеевіч падымае з парыжэлай травы гронку рабіны, адрывае ад яе ягаду. Кідае ў рот.

—Яна ж салодкая бывае пасля марозаў,—заўважаю я.

—Для мяне—і зараз. Калісьці рабіна выратавала. Тады жыццё было горкае, а не ягада.

...А. С. Ягораву восемдзесят два гады. Жыве зараз ён у доме састарэлых, што ля вёскі Вароны.

—Прабачце, Аляксандр Сяргеевіч, у вас што, зусім нікога няма?

Ён доўга глядзіць на возера, што непадалёку плёскае хвалямі. Потым паварочваецца да мяне.

—Так, зараз я круглы сірата. Не засталося нікога ні з блізкіх, ні з далёкіх крэўных. Я, як вунь той лісток, што вецер сарваў з галінкі і цяпер носіць у паветры. З сямі год раптоўна застаўся сіратой разам з двума братамі. Узяў нас на выхаванне дзядзька. А «выхоўваў» ён нас недзіцячай працай, не шкадаваў нашага маленства. І кожны раз папікаў кавалкам хлеба, маўляў, з міласці ўзяў, каб з голаду не падохлі.

«Пры Саветах,—думаў я,—лепей стане». Ды здарылася ў трыццатым годзе бяда са мной. Знайшоўся адзін, стаў чапляцца да мяне, пагражаць. Аднойчы не вытрымаў і даў яму па патыліцы. Ну мне і ўляпілі на ўсю моц. Тут і хуліганства, і варожы выбрык, руку на актывіста падняў. Адправілі ў лагер на Калыму. Аб тых часах шмат напісана... Адно скажу: як толькі падыходзіў тэрмін вызвалення, дык адразу знаходзілі якое-небудзь парушэнне і дабаўлялі новы тэрмін... Карацей кажучы—зазнаў я па самае горла справядлівасці НКУСа...

Калі ж, нарэшце, прыйшла доўгачаканая свабода і калі прыехаў у родныя мясціны хворы і ўжо ў гадах, то даведаўся аб гібелі на вайне братоў, аб смерці родных. Колькі было сіл, працаваў рабочым на баржы. А потым вось знайшоў прытулак у доме састарэлых.

Дарэчы, адміністрацыя гэтага дома звярнулася ў пракуратуру аб рэабілітацыі Аляксандра Ягоравіча.

—Ну, хай я не вытрымаў здзекаў таго актывіста-камуніста, але навошта мяне потым зрабілі жудасным ворагам свайго народу?—здзіўляецца ён. Пакруціўшы гронку рабіны, дадае:

—Здзекаваліся з нас. Працаваць прымушалі, а есці амаль не давалі, дык мы гэтую рабіну ў лесе збіралі і ўпотай елі. І з сабой прынесілі ў лагер...

**Фота і тэкст А. КОГАЛЯ.**

# ЧЫГУНАЧНІКІ ПАТРАБУЮЦЬ

Цяперашняе эканамічнае становішча Беларусі і іншых дзяржаў былога СССР, якое хутка пагаршаецца, немінучая расплата за спробу рэалізаваць камуністычную ўтопію. Да чаго можа давесці пустая балбатня без канкрэтных справаў, раней за ўсіх на Беларускай чыгунцы зразумелі ў лакаматыўным дэпо Віцебск. Яшчэ ў 1989 годзе рабочыя дэпо спрабавалі сур'ёзна абмеркаваць з кіраўніцтвам шляхі выхаду з тупіка. Але, захапіўшыся балбатнёй аб перабудове, кіраўнікі пастараліся хутка ўсё замяць, не забыўшыся, аднак, расправіцца з ініцыятарамі правядзення дыялогу.

Не пажадаў сустрэцца з калектывам лакаматыўнага дэпо Віцебск начальнік Беларускай чыгункі і 25 верасня гэтага года. Размова калектыву з начальнікам дэпо Віцебск і начальнікам лакаматыўнай гаспадаркі была пустой тратай часу. І няма гарантыі, што выпрацаваныя ініцыятыўнай групай на чале з машыністам цеплавоза дэпутатам абласнога Савета В. Панасевічам патрабаванні і прапановы, накіраваныя на вырашэнне найвастрэйшых праблем, будуць уручаны начальніку чыгункі і ўжо тым больш—што гэтыя патрабаванні і прапановы рабочых дойдуць да Вярхоўнага Савета ці Савета Міністраў. Таму калектыў дэпо абмежаваў тэрмін атрымання адказу адным месяцам. У выпадку ігнаравання іх патрабаванняў рабочыя гатовы прадпрыняць больш рашучыя дзеянні аж да забастоўкі. Аналагічная сітуацыя складваецца і ў лакаматыўным дэпо Орша. Асноўныя патрабаванні рабочых: адмена статута работнікаў чыгуначнага транспарту, бо ён пазбаўляе іх права абараняць свае інтарэсы ў судзе, робіць іх бяспраўнымі рабамі, якія залежаць ад капрызаў кіраўніка, павышэнне ўзроўню заработнай платы да памераў, якія існуюць на суседніх—Кастрычніцкай і Маскоўскай чыгунках Расіі; скарачэнне апарату ўпраўлення і ліквідацыя непатрэбных прамежкавых звенняў кіравання (аддзяленняў чыгункі); справаздача аб дзейнасці шматлікіх камерцыйных структур: хто і якую ад гэтага мае карысць; да начальніка дэпо Віцебск, былога парторга Віцебскага аддзялення чыгункі І. І. Піцерскага: апублікаваць спісак тых рабочых, якія былі звольнены па скарачэнню штатаў, а таксама хто прыняты на іх месца, на якой падставе...

На жаль, прафсаюз дэпо застаўся ўбаку ад гэтага канфлікту, захоўваючы непарушнае маўчанне. Адчуваючы, напэўна, што ў такім выглядзе ён рабочым не патрэбен.

**А. ШЫДЛОЎСКІ,**
**лакаматыўнае дэпо, г. Віцебск.**

## Вольны дух лунае ў прэсе?

У верасні выйшаў першы нумар 16-цiпалоснай газеты «Европейское время», якая ўяўляе сабой, па меркаваннях галоўнага рэдактара, сучаснае, прафесійнае, арыентаванае на думаючага чытача беларускае выданне. Дэвіз «Европейского времени»: «Вольны дух павявае, дзе захоча».

**Анонс!**

У пачатку кастрычніка ў Менску адбыўся тэарэтычна-практычны семінар Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, прысвечаны будучай выбарчай кампаніі.

**(Падрабязны артыкул пра семінар чытайце ў наступным нумары).**

# ПРЫТУЛЮСЯ ДА

## Як выконваецца закон?

У рэдакцыю ад народнага дэпутата Беларусі, намесніка старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны А. А. Трусава паступілі матэрыялы, што датычаць выканання Закона аб мовах службовымі асобамі ў Віцебску. У прыватнасці, А. А. Трусаў звярнуўся з адпаведным пісьмом да старшыні Віцебскага гарвыканкама М. А. Федарчука, у якім адзначаецца: «Па тых дадзеных, якія у нас ёсць, у г. Віцебску толькі 2,2% вучняў вучыцца на роднай мове, а беларускамоўныя школы ў горадзе наогул адсутнічаюць. На рускай мове афармлены назвы вуліц, большасць магазінаў, кінатэатраў. Жыхары г. Віцебска скардзяцца на тое, што большасць перадач Віцебскага абласнога тэлебачання ідзе на рускай мове». Вось што адказаў народнаму дэпутату М. А. Федарчук: «Становішча з выкананнем «Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» таксама хвалюе гарадскі Савет народных дэпутатаў...

Мы глыбока пераканаyы, што асноўная ўвага павінна быць звернута на паступовы пераход да навучання на роднай мове. У мінулым навучальным годзе ў 10 школах горада працавалі 25 класаў з выкладаннем на беларускай мове. Адкрыта народная гімназія, дзе 77 вучняў таксама навучаліся па-беларуску. Яшчэ 200 вучняў у 6 школах вывучаюць курс беларускай мовы і літаратуры паглыблена. І ў 32 дзіцячых дашкольных установах на беларускай мове працуюць 47 груп, дзе знаходзіцца больш за тысячу дзяцей. І гэта колькасць штогод павялічваецца. Так, у наступным годзе ўжо ў 17 школах будуць працаваць беларускамоўныя класы. (Цікава, што азначаюць усе гэтыя лічбы ў працэнтных адносінах?—Рэд.). Што датычыць другіх аспектаў закранутай праблемы, то і тут ёсць пэўныя зрухі. Пры гарвыканкаме створана камісія па адраджэнню і захаванню гістарычнай і культурнай спадчыны. Камісіяй унесены прапановы па адраджэнню гістарычных назваў гарадскіх вуліц і плошчаў, якія апублікаваны ў друку для абмеркавання жыхарамі горада. У гэтым годзе ўсе культурныя мерапрыемствы былі арыентаваны на мясцовы матэрыял, праводзіліся з улікам нацыянальных традыцый... Ажыццяўляецца пераход да вядзення спраў на беларускай мове і яе шырокае выкарыстанне ў зносінах з грамадзянамі. З 1 красавіка г. г. на беларускую мову пераведзена справаводства ва ўсіх установах культуры горада. Створаная камісія па мастацкаму афармленню горада павінна забяспечыць кантроль над афармленнем назваў устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама выданняў інфармацыйнага і рэкламнага характару на беларускай, а ў выключных выпадках—на беларускай і рускай мовах.

Але гэта нас не супакойвае.

Мы і надалей будзем імкнуцца, каб у горадзе па-сапраўднаму гучала беларуская мова. Плануем у IV квартале бягучага года разглядзець гэта пытанне на гарвыканкаме».

**Ад рэдакцыі.** У сувязі з прыведзеным дакументам узнікаюць пытанні. Хто з кіраўнікоў гарадскога Савета, гарадскіх структур валодае беларускай мовай? Калі канкрэтна, у якія тэрміны афармленне горада будзе пераведзена на беларускую мову? Што гэта за «выключныя выпадкі»? І ці збіраецца нарэшце сам спадар М. Федарчук карыстацца беларускай мовай? Калі канкрэтна адбудзецца згаданае пасяджэнне гарвыканкама, бо IV квартал ужо наступіў?

Накіраваў адказ А. А. Трусаву і старшыня Віцебскага абласнога тэлерадыёкамітэта П. І. Пратасевіч. У гэтым адказе, у прыватнасці, адзначаецца: «Пакуль яшчэ нямала перадач Віцебскага абласнога тэлебачання і радыё гучыць на рускай мове. Прычына не столькі ў інертнасці журналістаў тэлерадыёкамітэта, ігнараванні імі Закона аб мовах, колькі ў рэальнай моўнай сітуацыі на Віцебшчыне, якую гвалтам і адным махам, вядома ж, не зжыць». У сувязі з гэтым—пытанне да кіраўніцтва Віцебскага абласнога тэлерадыёкамітэта: колькі журналістаў з тых, якія сёння працуюць на абласным тэлебачанні і радыё, валодаюць беларускай мовай? Мусіць, меншасць, бо пра гэта сведчаць перадачы таго ж абласнога тэлебачання. Як паведаміў намеснік старшыні абласнога тэлерадыёкамітэта Ф. Л. Кузняцоў, у лістападзе пры гэтым камітэце пачнуць працаваць курсы па вывучэнню беларускай мовы. Мы лічым, што сёння валоданне беларускай мовай—гэта справа гонару кожнага сумленнага журналіста, а таксама—і прафесійны абавязак. Бо жывём і працуем мы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

**Алесь ПОМНЯШЧЫ.**



Поўдзень

**Максіму БАГДАНОВІЧУ**

*Бачыў ты ў маркотным сутонні,*
*Як зарой разгараецца ўсход,*
*Як у пене праносяцца коні,*
*Як Базыль не закончыў паход.*

*Жыў Радзімаю, жыў яе лёсам,*
*І жадаў ты ёй шчасця, красы,*
*Бачыў зорку Венеру ў нябёсах,*
*Мерыў слуцкіх ткачых паясы.*

*Верыў ты, што вясновыя гоні*
*Шчэ разгорнуць святочны абрус,*
*Што прымчыць да нас зноўку Пагоня,*
*Вольнай стане твая Беларусь.*

*І збылося... Узняты нанова*
*Сцяг народны пад ветрам трымціць,*
*А тваё паэтычнае слова*
*Зараз чуйным прароцтвам грыміць.*

*Узышла над краінай Пагоня,*
*Коні быццам на крылах ляцяць,*
*І нікому ўжо гэтых коней*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

**Іван ЛАЗУКА.**

г. Сянно

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).**

## Новы маладзёжны рух

гістарычнай глебай. Піянерская сістэма выхавання (ідэалагізаваны дашчэнту злепак са скаўцтва) была палітычным адпаведнікам адукацыі. Разам яны стваралі таго чалавека-робата, які павінен быў збудаваць «светлую будучыню» для сябе і іншых.

Скаўцкі рух—адзін з многіх сродкаў, але не самы галоўны, прыдатных для лячэння застарэлых хвароб нашай сістэмы выхавання. Вось чаму адраджэнцы заняліся скаўцтвам. У Менску, Гомелі, Гародні, Маладзечне, у іншых гарадах узніклі скаўцкія адзінкі, дзе праца вядзецца на грунце нацыянальных традыцый. Паступова, па акрушыне збіраючы досвед у тэорыі і практыцы, яны даспелі да арганізацыі Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў (АБС). І зноў—пад акампанемент енку «дабразычліўцаў» аб негатоўнасці Беларусі да стварэння арганізаванага скаўцкага руху.

Сёлетняй практычнай дзейнасцю «малады» харугвы АБС давялі сваю жыццяздольнасць, уменне супрацоўнічаць, узаемна дапамагаць. Менскія, гародзенскія, маладзечанскія, баранавіцкія, парэцкія скаўты сустракаліся ў трох летніках, пабывалі ў вандроўках і на экскурсіях, гасцілі ў сябе паэтаў і бардаў, навукоўцаў і святароў.

12 жніўня г. г. АБС нарэшце атрымала статус грамадскай арганізацыі ў поўным аб'ёме: зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі. Гэта не дае нейкіх адчувальных палягчэнняў у працы, але тым не менш прыемна належыць да паўнапраўнай супольнасці.

**Анатоль ЖУКОЎСКІ,**
**Скаўт-Канцлер АБС.**

P. S. АБС ахвотна навяжа кантакты для супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі скаўцкім рухам.

**Адрас для карэспандэнцыі:** 230010, Гародня, вул. Гая, 7, кв. 66.

## Канфлікт з-за моваў

Факты, выкладзеныя ў артыкуле, які мы прапануем увазе чытачоў, маюць месца ў адной з віцебскіх школаў. Аднак з этычных меркаванняў імёны і прозвішчы некаторых дзеючых асоб зменены.

Канфлікт паміж сям'ёй Кунцэвічаў і калектывам настаўнікаў школы пачаўся ў красавіку 1992 года. Шасцікласніку Дзіму па выніках навучальнага года пагражалі двойкі па рускай і беларускай мовах. Тады, у красавіку, бацькі Дзімы, грунтуючыся на самых добрых намерах—аблегчыць вучобу сыну, якому цяжка даваліся і руская, і беларуская мовы—запатрабавалі ад адміністрацыі школы вызваліць іх сына ад вывучэння беларускай мовы. Па словах дырэктара і завуча школы, бацькі абгрунтавалі гэта сваё патрабаванне тым, што яшчэ зусім нядаўна, якіх 2—3 гады назад, вызваліць вучня ад вывучэння беларускай мовы было нескладана. Але цяпер ужо не той час, і адміністрацыя школы растлумачыла гэта В. Кунцэвічу—бацьку Дзімы: цяпер вызваліць ад вывучэння беларускай мовы ў адпаведнасці з Законам аб мовах практычна немагчыма. У адказ В. Кунцэвіч забараніў сыну наведваць урокі беларускай мовы (адбывалася гэта ў красавіку—траўні). Цяпер ён тлумачыць гэта тым, што настаўніца парушала закон аб дэпартызацыі, прыводзячы ў якасці прыкладаў сказы, практыкаванні, у якіх славіцца Ленін, КПСС, светлы і гераічны шлях да камунізму. Па выніках навучальнага года Дзіма атрымаў дзве «двойкі»—па рускай і беларускай мовах, работу на лета і восеньскія іспыты па гэтых двух прадметах. Іспыт па беларускай мове Дзіма здаў на «тройку», а вось па рускай... У жніўні адміністрацыя школы пяць разоў прызначала Дзіму тэрміны для здачы іспыта па рускай мове. Але Дзіма так і не з'явіўся: яго не пускалі бацькі. На гэты раз яны патрабавалі і патрабуюць вызваліць іх сына ўжо ад вывучэння рускай мовы. Але і гэта немагчыма па існуючых законах. Паколькі Дзіма па віне бацькоў не здаў восеньскі іспыт па рускай мове, рашэннем педсавета ён пакінуты на другі год у 6 класе ў адпаведнасці з існуючай інструкцыяй. Але бацька самавольна прывёў і пасадзіў сына ў 7 клас, загадаўшы яму наведваць толькі гэты клас і ні ў якім разе не шосты, у якім Дзіму пакінулі на другі год. І ён наведвае штодня 7 клас (дакладней, яго прыводзіць бацька), а ў той жа час яму пагражае перспектыва застацца ў 6 класе на трэці год. Цяпер В. Кунцэвіч піша заявы і скаргі ў самыя розныя ўстановы: рана, гарана, аблана, пракуратуру вобласці, міністэрства асветы, Вярхоўны Савет. Ён рашуча патрабуе вызваліць свайго сына ад вывучэння рускай мовы (хоць гэта не прадугледжана Законам аб мовах)—«мовы акупантаў», называе ў заявах і скаргах чыноўнікаў, што сядзяць у гэтых вышэйпералічаных установах, «інквізітарамі», «ворагамі беларускага народа», якія ў адносінах да яго сына праводзяць «палітыку апартэіду і генацыду». Такім чынам, мы бачым, што

# РОДНАЙ МАЦІ-МОВЫ

У камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь паступаюць шматлікія лісты ад жыхароў Віцебшчыны, которыя актыўна выступаюць у абарону роднай беларускай мовы. Аб гэтым сведчаць матэрыялы, якія публікуюцца ніжэй.

**РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «ВЫБАР»**

**Паважаныя калегі!**

У апошні час сілы, якім не даспадобы сапраўдная незалежнасць Беларусі, распачалі ў прэсе і па радыё кампанію за тое, каб зрабіць рускую мову таксама дзяржаўнай і тым самым канчаткова знішчыць беларускую. Аднак многія жыхары Беларусі, у тым ліку і з Віцебшчыны, даслалі ў нашу Камісію лісты ў абарону роднай мовы. Толькі за першыя два тыдні верасня я маю 60 лістоў у падтрымку беларускай мовы. Карыстаючыся выпадкам, я хачу выказаць на старонках «Выбара» сваю глыбокую падзяку жыхарам Віцебска Т. Бляхевай, Т. Голубевай, М. Салаўёвай, Н. Янавай, А. Паўлоўскай, А. Канстанцінавай, В. Новікаву, М. Хацейкіну, С. Івановай, Н. Лялюга, Н. Ласкуновай, В. Хомчанка, Н. Рыбаковай, Н. Баранавай, С. Міхайлаву, А. Хайноўскаму, В. Лонь, М. Івановай, Г. Гакавай, Т. Яроцкай, Т. Жданковіч, Э. Бабыдавай, Н. Ляошка, С. Анісімавай. Прыміце мае найлепшыя пажаданні, спадарыні Вера Бадун, Вольга Замбер, Іна Пацалуёнак з Верхнядзвінскага раёна; Ніна Вайцякян і Э. Шэйма з Сенненскага раёна; Марыя Раманцэвіч і Людміла Вайтэцкая з Браслаўшчыны; Наталля Ярошчанка з Докшыцкага раёна; Таццяна Васільева з Віцебскага раёна; Зоя Гуменнік і Наталля Сямашка з Глыбоччыны; Т. Меляшчава з Дубровеншчыны; Любоў Хропава з Аршаншчыны; Н. Каснікоўская з Шаркаўшчыны; Анатоль Гарны з Пастаў; Вольга Прытыка з Полацка; А. Бандарава і А. Ткачонак з Бешанковіцкага раёна; Н. Суботка з Міёршчыны; Алена Далянка з Гарадка; А. Жарнасек з Лепеля; Святлана Курчава з вёскі Крывое Талачынскага раёна, а таксама тыя людзі, якія сціпла падпісаліся «беларус» альбо «беларуска», ці «грамадзянін Беларусі».

Дасылаю вам копіі вышэйзгаданых лістоў і буду вельмі ўдзячны, калі вы знойдзеце магчымасць надрукаваць самыя цікавыя з іх.

**З павагай
А. А. ТРУСАЎ,
намеснік старшыні Камісіі.**



Малалецтва.

Фота **І. Цярэнцьева.**

Пішу Вам, таму што адчуваю сваю адказнасць за тыя змены, якія адбываюцца ў нашай Рэспубліцы Беларусь. Лічу, што маю права падаць свой голас, бо я—Беларуска! Мой жыццёвы шлях навекі звязаны з роднай беларускай мовай. Выступаю ў яе абарону не таму, што мне так лепш. Проста інакш не магу —не дазваляе грамадзянскае сумленне.

На працягу многіх стагоддзяў беларуская мова ўпарта змагалася за сваё існаванне. Прыходзіцца абараняцца ёй і сёння. Дык няўжо і далей беларусы будуць моўчкі адседжвацца ўбаку, назіраючы, як яе паціху выкарчоўваюць тыя, каму яна не даспадобы? Калі гэта так, то не будзе нам прабачэння ад нашых нашчадкаў. У нас ёсць свая незалежная Рэспубліка, а значыць, павінна быць і свая дзяржаўная беларуская мова.

**СУБОТКА Н. Ф.,
Віцебская вобласць,
Міёрскі раён.**

* * *

Вельмі жадаю сказаць некалькі слоў у падтрымку беларускай мовы. Хочацца, каб кожны з нас не лічыўся беларусам па пашпарту і метрыках, але быў беларусам на самай справе і насіў высока паднятую галаву, ганарыўся тым, што ён нарадзіўся, жыве і працуе на Беларусі. Нашай радзіме і беларусам ёсць чым ганарыцца, у нас вельмі багатая спадчына, у якой было месца і мове. І таму я хачу аддаць свой голас за тое, каб мова народа жыла заўсёды, была дзяржаўнай.

**З удзячнасцю
ЛЯЛЮГА
Наталля Мікалаеўна,
жыхарка г. Віцебска.**

* * *

Захацелася напісаць гэты ліст таму, што ўжо даўно баліць душа за лёс нашай роднай беларускай мовы. Нельга са спакойнай душой глядзець, як яе зараз зневажаюць.

Вось ужо некалькі год дзейнічае Закон аб мовах, але вынікаў яго выканання не бачна.

У кожнага народа павінна быць свая нацыянальная мова і толькі адна.

Я спадзяюся, што вы не пакінеце без увагі мой ліст, і мой голас у падтрымку беларускай мовы будзе пачуты.

**З павагай
жыхарка Беларусі,
Віцебская вобласць,
Докшыцкі раён.**

Я, як жыхарка Беларусі і як будучая настаўніца беларускай мовы і літаратуры, хачу падтрымаць выкананне Закона аб мовах, бо лічу гэта абавязкам кожнага беларуса. Мяне вельмі хвалюе лёс нашай роднай мовы. Чаму так марудна ідзе ажыццяўленне гэтага Закону?

**З павагай
АНІСІМАВА С. М.,
г. Віцебск.**

* * *

Мяне вельмі хвалюе лёс роднага слова, роднай зямлі. Каб наша Беларусь выжыла, каб не загінулі беларусы (бо гэта будзе пагібель для нашай нацыі, калі мы адмовімся ад галоўнай адзнакі—сваёй мовы), трэба, каб дзяржаўнай была толькі беларуская мова.

А Закон аб мове пакуль што даў, на мой погляд, мала вынікаў; наша мова, як і раней, застаецца ў большасці беларусаў не ў пашане, прасцей кажучы, яна амаль нікому не патрэбна. Ад гэтай думкі вельмі балюча: бачыць, што гіне Беларусь, і нічым не дапамагчы ёй. Хто ў гэтым вінаваты?

Я горача люблю сваю Беларусь і беларускую мову, таму вельмі прашу Вас усімі сіламі садзейнічаць выкананню Закона аб мове. Ні ў якім разе нельга дапусціць таго, каб і руская мова стала дзяржаўнай. Яна і так усюды пануе, калі ж яшчэ набудзе статус дзяржаўнай, нашай беларускай мове не выжыць.

А гэта не павінна здарыцца, Беларусь і яе мова павінны жыць! І таму нам патрэбна дзяржаўная мова толькі і толькі **беларуская**!!!

**З павагай
ІВАНОВА Марыя,
студэнтка,
г. Віцебск.**

* * *

Я—беларуска! Я ганаруся гэтым, але вельмі занепакоена лёсам сваёй роднай мовы. Яна павінна быць дзяржаўнай! Гэта наша родная мова, мова нашых дзядоў, і мы павінны захаваць яе. І не толькі захаваць, а дамагчыся яе росквіту. Усе беларусы павінны размаўляць на сваёй роднай мове, на беларускай мове. І гэта не мая асабістая думка, так лічаць і мае бацькі, і мой муж, і мае таварышы па працы.

Беларуская мова—пяшчотная мова, ласкавая, прыгожая.

Беларусы павінны размаўляць па-беларуску! Дайце ім такую магчымасць! Яны хочуць гэтага! А калі ёсць тыя, хто супраць нашай мовы —то гэта тыя людзі, якія павышаць свой культурны ўзровень, вывучаючы беларускую мову, не хочуць.

Няхай нашы дзеткі вучацца ў беларускіх школах!

**З павагай
ПАЎЛОЎСКАЯ Алена,
г. Віцебск.**

* * *

Вось ужо два гады, як прыняты Закон аб мове ў Рэспубліцы Беларусь, але амаль ніякіх канкрэтных дзеянняў з боку камісіі, якая павінна садзейнічаць праявдзенню закона ў жыццё, не назіраецца, што, вядома, выклікае незадавальненне ў многіх сумленных грамадзян нашай Радзімы. Беларускі народ—вялікая нацыя, нацыя нашчадкаў Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, Е. Полацкай і яна павінна ведаць, шанаваць сваю гісторыю, любіць родны край. А як мы можам гэта зрабіць, калі не ствараюцца ўмовы для вывучэння роднай мовы? Просім Вас не звяртаць увагі на розныя выпады супраць беларускай мовы і зрабіць усё, каб наша мова загучала ва ўвесь голас, каб карысталіся ёй усе грамадзяне нашай Рэспублікі.

З вялікай павагай да Вас радавыя жыхары незалежнай дзяржавы

**С. І. МІХАЙЛАЎ,
А. В. ХАЙНОЎСКІ,
г. Віцебск.**

В. Кунцэвіч з нядаўняга часу падаўся ў палітыку, зрабіўшыся непахісным барацьбітом за адраджэнне беларускай мовы і непрымірымым ворагам мовы расейскай— і ўсё гэта, напэўна, дзякуючы «двойкам» Дзімы па абедзвюх мовах?

Але гэты канфлікт высвечвае і больш значныя праблемы. Сёння робіцца ўсё відавочней, што наш Закон аб мовах, прыняты амаль тры гады назад наменклатурным камуністычным Вярхоўным Саветам далёка адстаў ад рэалій жыцця. Тут не ідзе гаворка аб тэрмінах увядзення ў дзеянне гэтага Закона, хоць зразумела, што гэтыя тэрміны празмерна расцягнутыя. Цэлы шэраг артыкулаў Закона цяпер, пасля набыцця Беларуссю незалежнасці, патрабуе, на маю думку, перагляду. Напрыклад, артыкул 24, дзе, у прыватнасці, гаворыцца: «Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах Беларусі вывучэнне беларускай і **рускай** моў з'яўляецца абавязковым». Ці патрэбна зараз у незалежнай Беларусі абавязковае вывучэнне рускай мовы ва ўсіх школах? Законам статус рускай мовы вызначаны як «мовы міжнацыянальных зносін». Але ў школах гэтая мова цяпер, на мой погляд, павінна вывучацца як замежная разам з англійскай ці французскай, іспанскай ці нямецкай. І дзеці павінны мець выбар: вывучаць гэту мову разам з іншымі або не.

С. Рублеўскі ў «Народным слове» за 19.09.92 г. піша: «Ёсць Талстой, Дастаеўскі, Чэхаў. Нават на Захадзе многія імкнуцца чытаць іх на мове арыгінала... Ды і наогул, чым больш чалавек ведае моў, тым багацейшая яго душа». З гэтым можна пагадзіцца. Але перш за ўсё трэба ведаць мову народа, на зямлі якога жывеш. Як можна жыць у Англіі, не ведаючы і не жадаючы ведаць англійскай мовы? І ці можна ўявіць англічаніна, які не ведае роднай мовы? Беларусаў, якія не ведаюць і не жадаюць ведаць роднай мовы, можна сустрэць на кожным кроку. Нацыя адродзіцца, калі адродзіцца мова. А пакуль што многія чыноўнікі не спяшаюцца авалодваць беларускай мовай. Гэта бліскуча прадэманстравала перадача абласнога тэлебачання «Прамая лінія» напярэдадні новага навучальнага года, у якой прынялі ўдзел кіраўнікі народнай адукацыі Віцебска і вобласці. У той час як загадчык аблана Н. М. Гірса адказаў на пытанні тэлегледачоў на добрай беларускай мове, астатнія ўдзельнікі тэлеперадачы, у тым ліку загадчык Віцебскага гарана В. А. Праснякоў, размаўлялі на рускай мове. Ці В. А. Праснякоў бярэ прыклад з нашага прэм'ер-міністра, які некалі на ўсю рэспубліку паабяцаў авалодаць беларускай мовай, але не вельмі спяшаецца выконваць сваё абяцанне? Але ж у абодвух побач добрыя прыклады: для В. Ф.Кебіча—С. С. Шушкевіч, для В. А. Праснякова— Н. М. Гірса. Гледзячы на такія адносіны загадчыка гарана да беларускай мовы, настаўніцтва нашага горада таксама не будзе спяшацца адраджаць нашу мову, культуру, прывучаць да гэтых нацыянальных скарбаў падрастаючае пакаленне.

**А. АНАТОЛЬЕЎ.**

Вакол культурна-рэлігійнага жыцця

# Што такое сапраўднае праваслаўе?

З 25 па 27 верасьня гэтага года ў Беларусі на афіцыйным узроўні былі праведзены мерапрыемствы па сьвяткаваньню 1000-годзьдзя Полацкай епархіі. Іх цэнтрам быў наш старажытны горад Полацак. Фундатарамі гэтага сьвята выступілі цяперашнія ўлады й экзархат Грэка-расейскай царквы на Беларусі на чале з мітрапалітам Філарэтам.

Летапісных зьвестак наконт заснаваньня Полацкай епархіі няма. Існуюць некаторыя ўскосныя факты, па якіх нельга дакладна вызначыць год яе заснаваньня (не абавязкова 992 г., гэта магло адбыцца й раней).

Задача майго артыкула ня ў гэтым. (У ім выкарыстаны вытрымкі з кнігі А. Валконскага «Каталіцтва й Сьвятое Паданьне Усходу» зь перакладам на беларускую мову.)

Можа ў некаторых з вас узьнікнуць (асабліва ў час сьвята) наступныя пытаньні:

1) Што азначае слова «праваслаўе» й «праваслаўны»?

2) Як узьнікла гэтае найменьне?

3) Што такое сапраўднае праваслаўе?

Спачатку растлумачым сэнс слоў «дагмат» і «абрад», іх значэньне ў Царкве Хрыстовай і суадносіны паміж імі.

«Дагмат»—выяўленьне аб'ектыўна йснуючай і, такім чынам, адзінай праўды» (А. Валконскі, «Каталіцтва й Сьвятое Паданьне Усходу», стар. 24). «Сапраўднасьць дагмата выяўляецца» ў тым, «...ці адпавядае ён Сьвятому Пісаньню» (Стары й Новы Запавет) «і Сьвятому Паданьню» (творы сьвятых Айцоў Царквы).—«Інакш гаворачы, ці адпавядае дагмат адкрыцьцю Божаму...» (стар. 25). «Дагмат ня можа зьмяняцца ў залежнасьці ад суб'ектыўнага пачатку, будзь ён асобны або нацыянальны» (стар. 24). Гэта як у геаметрычнай тэарэме. «...Можа зьнікнуць усё матэрыяльна йснуючае», чалавецтва, «сама зямля, але плошча круга заўсёды застанецца роўнай $\pi r^2$» (стар. 24).

«Абрад. Неабходнасьць зьнешняга, вонкавага выраза ўслаўленьня Бога ўказана нам Збавіцелем» (стар. 25). Ісус Хрыстос даў нам «некаторыя асноўныя элементы богаслужэньня... Нават Царква ня можа іх мяняць» (стар. 25).

«Але мы кажам тут не аб сутнасьці богаслужэньня, агульнай усякаму абраду праўдзівай догмы, а аб абрадавых адрозьненьнях адзінай Царквы.

У гэтым сэнсе абрад... справа чалавечая... Абрад суб'ектыўны; ...кожны народ, але й кожны чалавек можа накласьці на яго сваю адметнасьць; абрад зьмяняецца ў часе й у прасторы; ён можа зьнікнуць, як усё зямное» (стар. 25—26).

«Дагмат—дар Божы... Абрад—чалавечае стварэньне» (стар. 26). «У гарманічным разуменьні хрысьціянства дагмат павінен панаваць над абрадам» (стар. 27). Дагмат—першаснае, абрад—другаснае.

Слова «праваслаўны» ў грэцкай ці лацінскай мове чытаецца як «артадокс». Пад ім мы разумеем чалавека ці грамаду людзей, якія строга прытрымліваюцца першапачатковага вучэньня й не адхіляюцца ад яго, спавядаюць сапраўдныя хрысьціянскія дагматы.

«Найменьне «праваслаўе».. атрымала шырокае распаўсюджваньне пасьля зацьвярджэньня сьвята «Трыумфа праваслаўя» (842 г.). Адбылося гэта пасьля канчатковай перамогі Царквы над «іконаборческою» ерасьсю; асноўная заслуга ў гэтым належыць Рымскаму папе Адрыяну I (787 г.), які быў пасьлядоўнікам у сваім вучэньні аб іконах папы Рыгора Вялікага.

Выразы «каталік» і «праваслаўны» прымяняюцца айцамі царквы ўжо з II-га стагодзьдзя як сынонімы. Слова «праваслаўны» ўваходзіць і цяпер у канон лацінскай абедні («...omnium orthodoxrum»); на Усходзе яно захавалася й у прызнаючых кіраўніцтва Намесьніка Хрыста й у адмаўляючых гэта» (стар. 39). Выкарыстоўваем яго й мы, беларускія грэка-каталікі (каталікі ўсходняга абраду).

«Два чалавекі, зь якіх адзін прызнае Намесьніка Хрыста, а другі адмаўляе яго, абодва ня могуць верыць правільна: калі адзін **права**-слаўны, тады іншы карыстаецца гэтым іменьнем у парушэньне яго сапраўднага сэнсу» (стар. 39).

Перш чым разгледзець некаторыя хрысьціянскія дагматы, высьветлім розныя значэньні, якія мае слова «праваслаўны».

«1) Яно, перш-наперш, старажытны літургічны тэрмін, які йснаваў яшчэ да падзела Усхода й Захада й адзначаны са словам «верны». Каталіцкая царква захавала гэты тэрмін.

2) Ва ўсходнім кананічным праве й ва ўсходнім багаслоўі «праваслаўе» азначае першапачатковую веру сямі Сусьветных сабораў.

3) У народным уяўленні тых... людзей, якія вераць па-простаму, быць праваслаўным азначае быць хрышчоным, шанаваць Сьв. Тройцу. Хрыста-Сына Божага, маліцца Прасьвятой Дзеве, сьвятым» (Ефрасіньня Полацкая), «паважаць біскупа й сьвятароў, прымаць таінствы...» (стар. 39—40).

**(Працяг будзе).**

### Віншаванне з замежжа

Мітрапаліт Мікалай, Першы Іерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, звярнуўся з віншаваннем да народа беларускага ў сувязі з 1000-годдзем існавання Полацкай епархіі. Мітрапаліт выразіў спадзяванне, што «ў хуткай будучыні закрасуюць Еўфрасіньнеўскія крыжы на нашых сьвятынях па ўсёй Беларусі і што Багаслужбы будуць адбывацца на роднай беларускай мове».

**Наш карэспандэнт.**

### Першы паштовы блок Беларусі

Выпушчаны паштовы блок, прысвечаны 1000-годдзю Беларускай праваслаўнай царквы, з выявай полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царквы і фрагмента фрэскі XII ст. з гэтага храма. Блок складаецца з маркі з малюнкам крыжа Ефрасінні Полацкай. Намінал паштовага знака 5.00.

**Ю.Т.**

## Ушанаваць святое мейсца

У беларускамоўным амерыканскім часопісе «Полацак» змешчаны навуковы артыкул Лявона Калядзінскага «Храм сьв. Міхаіла зь Віцебску».

На аснове летапісных дый археалагічных дадзеных ведама, што гэтая царква—адзін з першых каменных храмаў у горадзе. «Зь якой нагоды быў збудаваны храм сьв. Міхаіла?»—пытаецца аўтар. І тут жа дае адказ: «Вядома, што кожны ўдзельны князь імкнуўся ўзьвесьці свой патранальны храм. Такім храмам найчасьцей зьяўляўся храм у гонар сьв. Міхаіла, памочніка князёў у ратных справах». Найбольш удалае мейсца пад яго было б на Замкавай гары, якая размяшчалася на дзядзінцы старажытнага места Віцебскага, дзе былі й выяўлены рэшткі гэтай царквы. Храм св. Міхаіла служыў дамінантаю віцебскага дзядзінца. Разам з цэрквамі св. Пятніцы і Дабравешчання, збудаванымі крыху пазней у вакольным горадзе, ён вызначаў сілуэт Віцебска сярэдзіны XII—XIII вякоў.

«Сёлета,—піша аўтар,—калі спаўняецца 1000 гадоў утварэньня Полацкай епархіі, для абуджэньня духоўнасьці і захаваньня гістарычнай памяці было-б добра ўшанаваць гэтае сьвятое месца ў Віцебску, устанавіўшы на месцы былога храма сьв. Міхаіла капліцу».

**Ю. Т.**

**Яшчэ адны раскопы**

Вядуцца археалагічныя раскопы ля старажытнага храма—Дабравешчанскай царквы.



## Мусульмане на Беларусі

*Сярод мусульман на Беларусі падаўляючую большасць складаюць татары. Яны з'явіліся ў Вялікім Княстве Літоўскім у XIV ст., як вайскоўцы, якіх запрасілі на службу вялікія князі. У пачатку XVI ст. іх колькасць на Беларусі складала болей 100 тысячаў. З цягам часу ў асяроддзі беларускага насельніцтва татары страцілі родную мову і пачалі карыстацца мясцовымі гаворкамі. На іх арабскім алфавітам пісаліся кнігі (кітабы). Некаторыя з татараў асімілявaліся і прынялі хрысціянства, але яшчэ доўга захоўвалі нацыянальныя культурна-побытавыя рысы. Разам з тым татары захавалі мусульманства ажно да нашых дзён. Зараз яны жывуць па ўсёй Беларусі. На Віцебшчыне іх болей за паўтары тысячы.*

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

*Унутры мячэці ў Іўі—адной з нямногіх, што захаваліся пасля 1917 г. на Беларусі. Пабудавана ў 1884 г., з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства 19 ст.*

**Фота Ю. РАБРОВА.**



*Мая малая Радзіма.*

*Гравюра* **Р. Клікушына.**

## Творчых поспехаў

Абодва віцебскія тэатры распачынаюць новыя сезоны. Юная «Лялька» адкрыла чарговы, сёмы, 27 верасня спектаклем «Дзед і Жорау». Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа гасцінна расчыніць свае дзверы перад гледачамі «Несцеркі» 16 і 17 кастрычніка. У нядзелю, 18-га, артысты мяркуюць паказаць дэтэктыўную «Загадку дома Верньe». Аматары нацыянальнай драматургіі ўбачаць 21 кастрычніка «Вежу». 20-га юныя гледачы пазнаёмяцца з казкаю «Жыла-была Сыраежка».

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

*Это не должно повториться*

# КОШМАРЫ ГУЛАГА

**За последние годы, кажется, достаточно говорилось и писалось о сталинских репрессиях, о системе ГУЛАГа, о тех испытаниях, которые выпали на долю нашего народа.**

**Вместе с тем мы считаем, что далеко ещё не всё сказано о тех трагических годах. Живы некоторые очевидцы этого кошмара. Своей информацией они могут дополнить картину происшедшего, а долг пишущих журналистов собрать всё по крупицам и сохранить для истории.**

**Ниже публикуем воспоминания одного из бывших узников ГУЛАГа К. ГУРСКОГО.**




*От Чёрного до Баренцева морей, от границ Польши до Тихого океана и Берингова пролива было разбросано более 520 концентрационных лагерей, не считая политизоляторов, централов, секретных и расстрельных тюрем.*

*Минуло сорок семь лет с тех пор, когда я распрощался с ГУЛАГом. С апреля 1933 года началась моя Одиссея молодого 22-летнего комсомольца по лагерям русского Севера. Освободился в конце 1945 года, просидев за проволокой вместо положенных первоначальных трёх лет целых тринадцать, а затем, в 1952 году, получил от щедрого Особого Совещания СССР подарок —очередное Постановление на бессрочную ссылку...*

*Реабилитирован полностью в конце 1955 года.*

Последние числа июня 1933 года. После тоскливого пребывания в Петрозаводской тюрьме меня с Леонидом Муниным, напарником по неудачному побегу из лагеря на Нивастрое за Кандалакшей, без предъявления добавочного срока направили спецэтапом в сопровождении троих конвоиров поездом в неизвестном направлении. Ехали мы в обычном пассажирском плацкартном вагоне, удобно разместившись в первом отделении от входа, сразу же за купе проводников. Две верхние полки были конвоем «любезно» предложены нам. Сам же конвой разместился на нижних, зорко наблюдая оттуда за беглецами-контриками.

Заняв своё место, я с удовольствием растянулся во весь рост. Хотя было и жестковато без матраса, но всё же свободно, чего не хватало в петрозаводской вонючей, душной, переполненной камере на сплошных нарах. Проходившие мимо пассажиры, увидев рассевшийся внизу конвой и нас, спешили скорее прошмыгнуть мимо. Вагон мерно покачивался из стороны в сторону, и под его монотонный перестук колёс, я быстро уснул.

Проснулся в конце дня, разбуженный Муниным, толкавшим меня в бок и протягивавшим ломтик хлеба:

—На—свои 300 граммов. Это наш оставшийся паёк от завтрака. Хотя нам положена ещё селёдка на день, но конвой её уже прикарманил.

Я возмутился:

—Как это прикарманил? Ты не мог потребовать выдачи пайка полностью?

—Попробуй только. Лучше не связываться с ними. Я было заикнулся насчёт селёдки, они как раз и уплетали её, распивая поллитровку, глянь ка сам. Но старшой как гаркнет на меня: «О какой селёдке ты, парень, толкуешь? Никакой селёдки на вас не выдавали. Не положено. Жуй свой хлеб да помалкивай!».

Хотя мы разговаривали шёпотом, старший посматривал на нас с усмешкой, высасывая с аппетитом селёдочную головку. Пойди-ка, поспорь с конвоем! Только врага в их лице наживёшь себе, лучше попридержать свой язык, да и желудок, а то ещё устроят нам какую-нибудь пакость, обвинят в оскорблении конвоя при исполнении служебных обязанностей, в неподчинении или антисоветской агитации впридачу. По прибытии же в лагерь сразу попадёшь, как кур во щи, в ШИЗО (штрафной изолятор).

Хочу заметить, что в тридцатые годы купе в вагонах не были загорожены глухими перегородками, как в современных. Низ был закрыт наглухо, но верхняя часть на уровне полки оставалась свободной, так что лёжа на верхней полке можно было свободно разговаривать с пассажирами в соседнем купе, даже просматривать всю верхнюю половину во всю длину вагона, будучи отделённым от соседа только узкой доской, чуть выше матраса.

Где-то в пути соседнюю полку рядом со мной заняла симпатичная молодая, лет под тридцать, женщина. Некоторое время мы лежали рядом молча. Наконец, она обратилась ко мне:

—Извините. Простите за нескромный вопрос? Вы куда едете?

Я в ответ пожал плечами.

—Как, вы не знаете, куда? Может быть, едете зайцем, пока вас не разоблачат и не высадят из поезда?—поинтересовалась она.

Я улыбнулся и ответил шепотом:

—К сожалению, не могу ничего ответить вам определённо. Как видите, я человек подневольный, еду с конвоем!

Женщина широко раскрыла голубые глаза в недоумении, затем произнесла:

—О, Боже мой! Как я не догадалась, увидев рядом с вами стрелков с винтовками... Проклятая дорога! От самого Ленинграда до Мурманска понатыкали лагеря с десятками тысяч заключённых! Сколько народу понагоняли сюда со всего Союза. Всю Карелию заполонили ими. Бесчисленные лесозаготовки, Беломорканал... Страшно сказать... Сказывают, что на Беломорканал нагнали чуть ли не полмиллиона. В таких скалах прорубают канал. Сколько их умирают на строительстве. Всю работу выполняют вручную. Лом, кирка да лопата—вся техника, да тачка на одном колесе. Правда, и подвод с лошадьми хватает вдоволь. Даже женщины ломами долбят скалу или клиньями с кувалдой!

—Неужели скалы не взрывают?—сросил я.

—Почему же нет? Но это дорого стоит, труд-то бесплатный—за кусок хлеба и черпак жидкой баланды. Насмотрелась я всего такого, что страшно и говорить...

—Ничего, я такой же заключённый, только ещё новичок, может и завтра окажусь в таких же условиях, лучше сразу узнать правду. Извините, а откуда вам известны такие подробности о жизни заключённых?

Она посмотрела мне в глаза.

—Вам можно довериться. Но Боже спаси вести такие разговоры с любым в настоящее время. Я сама местная, из Медвежьей горы, работаю там медсестрой в лагерной больнице, вольнонаёмной по путёвке. Сейчас еду к маме в Кандалакшу. Что-то приболела, бедная. Деда-то моего, маманиного батю в прошлом году, раскулаченного ранее, расстреляли... А брата-то моего старшего, как троцкиста сослали в какой-то Анзер на Соловках. А люди-то, люди бедные! Так и мрут, как мухи от непосильного труда, работают по 14 часов в сутки. Питание—почти одна вода. Хлеба 800 граммов и менее—при невыполнении нормы. Норму не выполнил—получай штрафной. И быстро доходят от голода. Боже мой! Что творится. Не дай Бо вам попасть в такие условия...

Я слушал её искренние слова и пожелания мне лучшей участи. Но чувствовал, что на сей раз не минует меня чаша сия...

Долго мы беседовали с ней. Много она рассказала такого, что и во сне не приснилось бы. Я с интересом внимал ей, вслушиваясь жадно в каждое слово, и делился с ней своими воспоминаниями о пройденной жизни на воле. Разговаривали мы шепотом, приникнув тесно голова к голове...

Хорошо, что конвой оказался непривередливым. Проезд наш от Петрозаводска до Кеми (места нашего назначения) прошел для меня в интересных беседах. Моя попутчица оказалась смелой, довольно эрудированной, откровенной женщиной, рано открывшей глаза на всё происходящее в стране...

Когда в Кеми мы выходили из вагона, она через конвой передала мне полбуханки чёрного хлеба и несколько печёных картофелин. Старший разрешил принять передачу без излишних вопросов и придирок к смелой женщине.

В Кеми нас с Муниным определили в пересыльный пункт, расположенный за колючей проволокой на болотистом, лишённом растительности (лес был весь вырублен вокруг) Поповом острове. Разместили нас в переполненном людьми бараке. Кого только там не встретишь! Прибывших только сюда из тюрем новичков, хорошо одетых, многие из которых выглядели хорошо упитанными, и доходяг—уже бывалых лагерников; большинство из них—еле волокущие ноги, изнемождённые, худые, жёлтые, в лагерном рубище или в изорванном гражданском одеянии. Многие были совершенно босы, видимо променяли обувь на кусок хлеба или её сняли с них прозорливые урки...

Прошло несколько дней. На работу нас не гоняли. Хлеба мы получали 600 г и дважды черпак баланды. Но иногда, в нарушение всех правил, нас гнали на некоторые работы за зону. Счастливчикам, работавшим по разгрузке продуктов или фуража, иногда удавалось, несмотря на шмон на вахте, пронести в зону картофелины или овса. Тогда для счастливчика начиналось пиршество. Скажу откровенно, однажды нам с Муниным удалось пронести в зону по хорошей горсти овса: голод начал уже оказывать своё действие на нас обоих. Пытались мы овёс варить, жарить—ничего не получилось. Доходяги пожирали его в таком виде и тут же вскоре отправлялись на медпункт в страшных мучениях. Мы же, несмотря на мучительные потуги, держали себя в руках, не шныряли по территории лагеря в поисках «съестного».

Как-то нас неожиданно направили на Рабочеостровскую пристань (Морсплав) грузить лесом иностранный пароход. Жутко было со стороны смотреть на нашу бригаду «грузчиков», в большинстве собранных из полудоходяг, истощенных, худющих, в лохмотьях одежды, босых, едва ворочавших брёвна экспортного леса (баланы) для «загнивающего» Запада. Правда, были среди нас ещё люди, не потерявшие человеческого облика.

С палуб заморского лесовоза на нас молча, в явном недоумении и раздумьи, взирали откормленные иностранные моряки. Хотя им было не только категорически запрещено переговариваться с заключёнными, но и даже выражать малейшую жалость и сострадание, они этим пренебрегали и, улучив момент, кидали нам сверху булки, куски хлеба, сигареты, иной раз даже куски сахара или колбас. Охранники, заметив явное нарушение, матерясь во всё горло, бросались в толпу голодных зеков, буквально вырывали из рук или рта съестное и швыряли в море или в ярости растаптывали грязными сапогами, при этом щедро награждая беднягу заключённого, осмелившегося поднять с земли подачку, ударами приклада.

Как мне, знающему английский язык, хотелось очутиться сейчас на этом лесовозе из-за океана и рассказать о невиданном произволе на моей Родине...

Если же какой счастливчик-доходяга успевал проглотить подачку, несмотря на строгий запрет, он мог быть уверен, что по возвращении в зону вместо добавочных двухсот граммов хлеба, ему был обеспечен карцер на пять или десять суток при штрафном пайке, по усмотрению лагерной администрации. Основание—дискредитация советских рабочих в глазах иностранцев.

Иной раз разъярённому конвоиру приходилось для острастки открывать пальбу в воздух. В людей не стреляли из-за боязни перед иностранными моряками—«братьями по классу»—нежелательными свидетелями досадного инцидента. Нечего греха таить, морякам, несмотря на категорический запрет, удавалось скрытно фотографировать многие эпизоды и помещать их за большие деньги в западной прессе.

Прошло немало лет с тех пор, но старшее поколение должно ещё помнить официальные опровержения руководителей нашего государства по радио и в печати, что в СССР, якобы, не существует рабского труда заключённых, называвшие высказывания на Западе об этом «злостной клеветой» и лживыми измышлениями империалистов на «свободный» советский строй!

Теперь не только наш народ, но и весь мир достоверно знает, что наши опровержения были обманом—у нас действительно существовал бесплатный рабский труд и система, при которой безвинно погибли миллионы людей на лесозаготовках и великих сталинских стройках, создававшихся ГУЛАГом по указанию «мудрейшего».

В тридцатые годы эта тема широко освещалась западной прессой. СССР обвинили в демпинге. Я хорошо помню это время по западной печати и многочисленным снимкам. Сталин и его клика упорно продолжали всё опровергать. И только спустя почти тридцать лет наш народ узнал горькую правду о бесчисленных лагерях, лесозаготовках, о безвинных жертвах, сложивших свои головы в глухомани таёжных просторов, в вечномёрзлой тундре, в шахтах, рудниках на строительстве каналов, железнодорожных магистралей, комбинатов и новых городов, вроде Комсомольска-на-Амуре, Магадана, Воркуты, Ухты, Норильска, Джезказгана и других.

**К. ГУРСКИЙ,**

г. Ялта.

**(Продолжение в следующем номере).**

## НАВІНЫ

### Юбілярам

Літаратурна-мастацкая выстава «Песняры зямлі беларускай», прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы й Я. Коласа, адчынілася ў памяшканні Мастацкага музея ў Віцебску.

### Новая кніга

Акадэмія навук Беларусі выпусціла ў менскім выдавецтве «Навука і тэхніка» дослед «Старообрядцы в Беларуси» аўтарства Т. Каротькай, Е. Пракошынай і Г. Чуднікавай.

### І герб, і сцяг разам

У віцебскім універмагу прадаюцца вымпелы з адлюстраваннем дзяржаўнага герба і сцяга. Кошт—8,40.

**Ю. С.**

## Пра старажытнае дойлідства сталіцы

У менскім выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла навукова-папулярная брашура Пятра Русава «Деревянные сооружения Менска XIII—XVII в.в. (Опыт архитектурно-археологической реконструкции)». У ксёнжцы прапаноўваецца навуковы ілюстраваны матэрыял археалагічных раскопак у 1981-1988 гадах, які прыадчыніў невядомыя старонкі дойлідства Менска.

Выданне разглядае пытанні рэканструкцыі жылых ды гаспадарчых пабудоў, а гэтаксама й камунікацый старажытнага места. Дарэчы, аўтар лічыць неабходным ужываць «беспадстаўна зменены ў 30-ыя гады назоў горада, які на працягу многіх стагоддзяў упамінаўся часцей за ўсё як Менск».

**М. В.**

*Во дзівосы!*

## БЫВАЕ І ТАКОЕ

Колькі ўнікальных здарэнняў на памяці лекараў, медсёстраў ды нянечак аддзялення немаўлятаў ды неданошаных Магілёўскае абласное дзіцячае бальніцы! Вось хаця б самая апошняя, зусім неймаверная жыццёвая гісторыя. Маладая магіляўчанка, ужо маючы на руках малога, у нашу нялёгкую часіну не рашылася нарадзіць яшчэ аднаго. Зрабілі ёй міні-аборт. Але няўдала. Калі мінулі ўсе тэрміны, здзіўленая кабета выявіла, што цяжарнасць паспяхова працягваецца. Вымушана была пайсці на позні аборт (выкідыш). Жанчыну паклалі ў шпіталь. Там зрабілі ўсё, што трэба, пасля чаго яна выпісалася дамоў. Аднак далейшыя падзеі прынялі зусім нечаканы ход. «Выкідыш» не захацеў выконваць ролю, што яму вызначалі. Змяшаўшы ўсе карты, ён працягваў жыць.

Так дзіця трапіла ў аддзяленне немаўлятаў і неданошаных. Дзяўчынка вагою 850 г упарта чаплялася за жыццё. Ёй дапамаглі, выхадзілі.

Падышоў тэрмін выпіскі. Куды аддаць немаўля? Звярнуліся па названаму ў гісторыі хваробы хатняму адрасу...

Можаце ўявіць, які шок атрымала маці, якая не ведала аб такіх дзівосах! Гэтая кабета перажыла моцны стрэс, ад якога доўга не магла адысці.

Зараз усё добра. Дзяўчынка вось ужо тры месяцы жыве ў сям'і. Па словах участковага ўрача, развіваецца нармальна...

**Ю. С.**

Паводле матэрыялаў магілёўскае газеты «Ратуша».

### Яшчэ не юбілей, але ўжо дата

19 кастрычніка спаўняецца чатыры гады з моманту ўзнікнення гісторыка-асветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі» і аргкамітэту БНФ «Адраджэньне».

Звязацца з сябрамі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Вы можаце па тэлефоне 36-15-87 (Віцебск). Сустрэцца з прадстаўнікамі гэтай партыі, як і іншых дэмакратычных арганізацыяў, Вы можаце кожны чацвер а 18 г. 30 хв. у клубе выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» ў ГЦК.

8 кастрычніка ў гарадскім цэнтры культуры ў 18 гадзін 30 хвілін **мяркуецца выступ сябра БСДГ В. Арлова** аб перадвыбарнай праграме партыі на паседжанні клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары».

### Запрашаем на сустрэчу

Прапаведнік месіянскага руху ЗША **Дуэйн Уітлеф запрашае жыхароў г. Віцебска яўрэйскай нацыянальнасці на духоўную сустрэчу** 15-га кастрычніка 1992 г. у залу Гарадскога цэнтра культуры ў 19-30 (вул. Маякоўскага, 1).

Клуб «Узгор'е» штотыднёва па аўторках у 19 гадзін у ГЦК.

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

Паведамляем Вам пра нашыя паслугі гуказапісу.

Замова выконваецца на Вашым альбо нашым матар'яле. Тэрмін запісу залежыць ад складанасьці выкананьня.

У залежнасьці ад тэрміновасьці замовы і якасьці фанаграмы кошт можа мяняцца.

Мы таксама арганізоўваем падпіску на наш каталёг, які ўключае разьдзелы «Рок-гурты», «Поп-музыка», «Барды», «Фальклёр», «Клясыка». Дзеля гэтага перашліце адвольную суму грошай па адрасу:

Міхно Ю.
вул. Цітова, 12-1,
м. Стоўпцы, Менскае вобл.,
222660, Беларусь.

Калі Вы атрымаеце каталёгаў на дасланую суму, мы паведамім, што падпіску трэба працягнуць.

### «Прытчы Саламона»

У гэтым годзе спаўняецца 475 гадоў з дня выхаду (1517) пражскага выдання знакамітага палачаніна Францыска Скарыны «Прытчы Саламона».

*Амаль сур'ёзна*

## Рацпрапанова

Адзін сівы дзядок, выпіўшы лішняга, ехаў у аўтобусе і разважаў услых:

—А вы ведаеце, чаму ў нас столькі пажараў?!

Здзіўлены незвычайнай тэмай, аўтобус прыціх, а дзядуля працягваў.

—Таму што наш гандаль паўсюды і старым і малым пачаў даваць рэшты... запалкамі! Вось людзі і паляць запалкі ў лясах, не есці ж іх. Я, напрыклад, не куру і не п'ю...

Сапраўды, я і сам у апошні час стаў заўважаць, што толькі немаўляты не забаўляюцца з запалкамі. Усюды паляць паштовыя скрынкі, кнопкі ліфтоў, не говорачы аб лясах і тарфяніках. І ўсё па той жа прычыне, аб якой гаварыў стары чалавек.

Вось я і хачу ўсенародна прапанаваць праз вашу газету міністэрствам фінансаў і гандлю афіцыйна ўзаконіць запалкі як разменную манету. Тады мы зможам без цяжкасцей разлічвацца з хітрымі прадаўцамі іх жа «манетай».

Узнагароду за маю прапанову прашу пераліч́ыць на лік пажарных нашай рэспублікі.

З павагай
**Анатоль КАРЧЭЎСКІ.**

Віцебскі мастак Вікенцій Ральцэвіч

## Вясёлы глобус

*Няўдалы пабег: бег з сацлагера, а трапіў у рублёвую зону.*

* * *

*—Уяўляеш сабе: я сёння знайшла на лузе чатыры падковы.*

*—Няўжо? Цікава, што б гэтае значыла?*

*—Напэўна, конь хацеў пахадзіць басанож па расе.*

* * *

*—Знаешь, сынок, внутри Земли есть раскалённая масса.*

*—Неправда, папа. Я разрезал глобус и там ничего нет.*

* * *

*—Ваши близнецы, фрау Мюллер, наверное, иногда шумят?*

*—Ну всё не так уж плохо. Дело в том, что один кричит так, что второго не слышно.*

### НЕ ТОЛЬКІ ЦЫТАТЫ

І тут мы павінны сказаць раз і назаўсёды, што нам патрэбна толькі адна партыя, гэтаксама як Марці неабходна была толькі адна партыя, каб весці змаганне за незалежнасць Кубы, таксама як і Леніну патрэбна была толькі адна партыя, каб зрабіць Кастрычніцкую рэвалюцыю. Я кажу гэтае, каб не строілі ілюзіяў тыя, хто думае, быццам мы дазволім тут ствараць кішэнныя партыі—каб арганізаваць каго? контррэвалюцыянераў, прыхільнікаў янкі, буржуа? Не! Тут ёсць толькі адна партыя, гэта партыя нашага пралетарыята, нашых сялянаў, нашых студэнтаў, нашых працоўных, нашага народа, аб'яднанага моцна й непарушна. Гэта тая Партыя, якая ёсць і каторая будзе!

**Фідэль КАСТРА.**

«Кубинская революция—беспримерный подвиг» (Гавана, 1988 г.).

**Ад рэдакцыі:** цікава, колькі яшчэ пратрымаецца ва ўладзе гэтая «партыя народа»?

Вы жадаеце атрымліваць па падпісцы нашую газету? Тады напішыце нам. Умовы падпіскі паведамім Вам асабіста.

Аб'явы ад грамадзянаў і дэмакратычных арганізацыяў прымаюцца бясплатна.

**Наступны нумар газеты выйдзе 21 кастрычніка 1992 года.**

Выбар

ЗАСНАВАЛЬНІК:
*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар**
**Барыс ХАМАЙДА**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фатаграфіі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17, тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку («Віцкамбанк»). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні ім. Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Паліграфісты: **В. Карунас, Л. Волкава, Л. Драздова, А. Каспаровіч, Д. Малышаў, Б. Платоўскі.**

Нумар падпісаны да друку 6.10.1992 г. у 17.15
Наклад 2500 экз.

*Цана 1 рубель*